# КРЫВІНКА

КРАСАВІК
№7 (251)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




COVID-19

# ЖЫХАРЫ БЕШАНКОВІЧАЎ ПРА КАРОНАВІРУС

**Што думаюць звычайныя жыхары гарадскога пасёлку, медыкі, а таксама чыноўнікі пра каронавірус? Чым жыве мястэчка, якое на другім месцы ў колькасці хворых на COVID-19 у краіне?**

Карэспандэнт Belsat.eu з'ездзіў у Бешанковічы. Гарадскі пасёлак Бешанковічы невялікі, і людзей удзень на дварэ няшмат. Зрэдку праязджаюць машыны, але найчасцей гэта патруль міліцыі ці хуткая дапамога. Бешанковічы добраўпарадкуюць перад бліжэйшымі святамі: прыбіраюцца вуліцы, рамантуюцца асобныя будынкі ў цэнтры. Рабочыя носяць маскі, звычайныя мінакі на вуліцах — таксама. Мясцовыя адзначаюць, што пасля выяўлення каронавіруса ў гарадскім пасёлку, людзі пачалі менш выходзіць з дому.

— Людзей на двары стала відавочна менш. Усе ў масках, у пальчатках — адзінкі. Усе баяцца. Канечне, сустракаюцца асобы, якім усё адно, але такіх не вельмі многа. Па пад'ездах ляжаць памяткі пра каронавірус і пра тое, што ён асабліва небяспечны для сталых людзей. Ведаем, што многа пнеўманій і медыкі хварэюць. Людзі ўсё пра гэта ведаюць, чуткі разыходзяцца, — каментуе сітуацыю belsat.eu мясцовы жыхар Аляксандр.

У групе рызыкі знаходзяцца людзі ў гадах. Яны таксама карыстаюцца сродкамі індывідуальнай аховы.

— Складаная абстаноўка. Разумееце, паніка ў людзей. Я не магу сказаць, колькі канкрэтна смерцяў, але яны ёсць. Людзі баяцца. Во, ходзім у масках. Улады маўчаць. Улады разумеюць, але не хочуць паніку распаўсюджваць, таму крыху хаваюць. Не зусім верыцца. Сітуацыя не вельмі добрая. Таму мы стараемся неяк сябе абараніць, а з іншага боку, трэба змагацца, — дзеліцца сваім бачаннем становішча ў райцэнтры пажылы мужчына.

Пенсіянеры, з якімі мы размаўлялі, больш больш хвалююцца не за сябе, а за малодшае пакаленне.

— Ну, у нас другое месца пасля Менску [па колькасці заражаных. — Belsat.eu], так гавораць. Але калі людзі ва ўзросце паміраюць — можа, і не ад каронавіруса, тут і проста пнеўманія можа быць. Я ўжо ва ўзросце, мне 70 год — я не баюся. А вось за дзяцей страшна. Яны за нас баяцца, а мы — за іх, — гаворыць пажылая жыхарка Бешанковічаў.

Нягледзячы на цяжкае становішча ў гарадскім пасёлку, людзі працягваюць жартаваць на тэму віруса і выказванняў Лукашэнкі на гэты конт.

— Выжыве толькі той, хто п'е самагонку, і ў каго трактар ёсць, — смяецца мужчына, убачыўшы журналістаў у горадзе.

Пра трактар узгадваюць і іншыя:

— Я не баюся, як і Лукашэнка. Ён не баіцца, і я не баюся. 100 грамаў не п'ю, але на трактары езджу, — кажа адзін.

— У каго імунітэт слабейшы, той хварэе. Але мы працуем на трактары і самагонку п'ем, — дадае іншы.

Але не да жартаў цяпер у Бешанковіцкай цэнтральнай раённай бальніцы. Афіцыйную інфармацыю па хворых на каронавірус і пнеўманію ў ёй кіраўніцтва не падае, аднак мясцовыя работнікі пацвярджаюць складаную сітуацыю.

— Людзей возяць. Пнеўманія ў асноўным, але вызначыць, якая яна, ці ад каронавіруса — ніяк. Не ўсіх правяраюць, па так званых паказаннях толькі, бо тэстаў не хапае. Шмат медыкаў зараз захварэлі — 37,5 стабільна тэмпература ў многіх, і 38 таксама часта. Прывозяць на хуткай, у асноўным пажылых. 5 чалавек дакладна памерлі ад каронавіруса, а шосты пад пытаннем. Афіцыйна ніхто не хоча гаварыць. Але тут такі горад, усе ўсё ведаюць. Кожны кожнаму расказвае, — распавядае belsat.eu работніца мясцовай бальніцы.

У самой бальніцы цяпер каранцін, аднак людзей на тэрыторыі хапае. У адным з карпусоў знаходзіцца прыёмны пакой, дзе працягваюць прымаць пацыентаў.

— Людзі ходзяць і на прыём. Маглі б хоць зрабіць асобны ўваход для людзей з ВРВІ. Хуткая пастаянна туды-сюды ездзіць. Хто з тэмпературай, сімптомамі — заходзьце асобна, а пераломы якія ці яшчэ што — у іншы ўваход. Даўно б ужо каранцін увялі ў горадзе, было б больш сэнсу. Я ўсё разумею, але не абяднелі б за гэтыя два тыдні якія. Ва ўсіх ёсць нейкія запасы, — разважае працаўніца бальніцы.

Паводле жанчыны, амаль усе аддзяленні бальніцы цяпер занятыя хворымі на пнеўманію. Назіраецца пастаянны недахоп сродкаў індывідуальнай аховы для медыкаў.

— Не, гэтую інфармацыю я вам каментаваць не буду, бо гэта не зусім у маёй кампетэнцыі. Наконт увогуле абстаноўкі ў раёне, калі ласка, звярніцеся ў наш выканкам, у іх ёсць уся інфармацыя, якая вас цікавіць, — кажа галоўная лекарка Бешанковіцкай цэнтральнай раённай бальніцы Святлана Рошчына.

Кіраўнік галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Віцебскага аблвыканкаму Міхаіл Вішнявецкі на паседжанні абласнога штабу па барацьбе з распаўсюдам каронавіруса паведаміў, што ў бешанковіцкім раёне зафіксаваныя 27 выпадкаў каронавіруса. Аднак гэткія звесткі былі актуальнымі па стане на 17 красавіка. Колькі ж цяпер хворых на каронавірус у горадзе і раёне — невядома.

**Віктар Старавойтаў**
**Белсат**

## ****

*Да сяўбы застаецца дзень,*
*а ўсё круцяцца д'яблавы жорны...*
*Вецер белую маску надзеў,*
*каб пазбыцца навалы чорнай.*

*Пчолы дзівяцца ўсе: "Чаму?*
*Што, і нам заставацца ў сховах?"*
*З неба воблакаў тузін здыму,*
*каб для пчолак пашыць ахову.*

*Краскам — маскі таксама? Але ж*
*іх так шмат, а вось часу —*
*вобмаль.*
*Як тады цалаваць пчале*
*іх у вусны? Праз прадзіва воблак?!*

*Хмаркі ў неба назад вярну,*
*свой сумнеў затапчу ў калюзе*
*і пайду сустракаць вясну,*
*што нясмела ідзе па лузе.*

*Разам з пчолкамі — у сады,*
*буду кветкам расплюшчваць*
*вочы...*
*Жорны спыняцца толькі тады,*
*калі зерне ўзысьці захоча.*

***Г.Станкевіч***



# БЕЛОРУССКИЙ РЕНТГЕНОЛОГ ИЗ США О COVID-19

**Анна Томсон в 2010 году окончила Белорусский государственный медицинский университет. До 2014 года работала общим хирургом, а с 2017 года проходит резидентуру по радиологии в США. Она работает в клинике, где оказывают помощь пациентам с коронавирусом. О типичной картине таких пневмоний врач рассказала в интервью TUT.BY.**

*— На каком этапе пациенту с коронавирусом делают компьютерную томографию (КТ)?*

— Специфика такова, что в клиниках, где анализ на коронавирус готов в течение дня, могут вообще не делать КТ. В нашей больнице ситуация сейчас такая, что результат теста приходит через четыре–семь дней, поэтому рентген и КТ у нас — незаменимые методы диагностики коронавируса. Сначала пациентам стараются сделать рентгенограмму, если по ней неясно, что у человека коронавирус, то обязательно делают КТ.

*— Результат теста готов только через четыре–семь дней?*

— То, когда будет готов результат теста, зависит от многих факторов: штата, в котором ты живешь, клиники, лаборатории, которая этим занимается, типа реагента, времени на транспортировку. Поэтому результат теста может быть готов в сроки от шести часов до нескольких дней.

*— Вы лично контактируете в своей работе с пациентами с коронавирусом?*

— Я работаю в отделении рентгенологии и непосредственного контакта с пациентами у меня нет, то есть их снимки я расшифровываю удаленно.

В приемном отделении мои коллеги определяют, насколько серьезная ситуация у человека. Ему измеряют кислород в крови, делают лабораторные тесты, одним словом, определяют, насколько все плохо. Основной показатель — это насыщение крови кислородом. Если оно около 95% и симптоматически человек себя чувствует неплохо, то ему дают профилактические препараты: парацетамол, некоторые антибиотики — и отпускают под карантин домой.

Тех, у кого низкий процент кислорода в крови и есть сопутствующие заболевания, явно серьезная клиническая картина, — госпитализируют. Это примерно половина пациентов. У многих людей в США есть артериальная гипертензия, сахарный диабет, ожирение, это значит, что у них сопутствующие заболевания, поэтому и такие большие цифры по госпитализации. К тому же многих пациентов привозят из домов престарелых, и их тоже, скорее всего, госпитализируют.

Пациенты лежат в изолированных палатах, и сейчас очень частая практика, когда доктор с ними созванивается. Фактически осмотр больного проводится удаленно. Но если кто-то в серьезном состоянии, тогда к нему приходят в защитной экипировке.

Различаются три стадии коронавирусной инфекции. Ранняя — это первые семь дней, когда у человека появляются лихорадка, озноб, головная боль, боль в груди и кашель. Вторая стадия — это стадия прогрессирования, она начинается между пятым и седьмым днем заболевания. Во время нее появляется одышка, и на ней чаще всего пациент и попадает в больницу. На третьей стадии человек или выздоравливает, или болезнь нарастает и пациент выходит на острый респираторный дыхательный синдром. Это происходит примерно на 10–14-й день.

Из того, что мы видим, насморк у пациентов с коронавирусом бывает очень редко, но иногда возникает потеря обоняния, и довольно часто бывает диарея. Это вирусное заболевание, и многие вирусы также поражают гастроэнтеральную систему, поэтому и возникают желудочно- кишечные симптомы — рвота и диарея.

**«Пневмония при COVID-19 — это чаще двустороннее воспаление легких, причем в основном поражены нижние доли»**

*— Пациенты могут попасть к вам на КТ даже на первой стадии?*

— Да. Например, это возможно, если в больницу привезли человека, у членов семьи которого уже есть коронавирус, или если пациент доставлен по другим экстренным показаниям. Даже на первом этапе, на второй-третий день


***(працяг на стар. 2)***

COVID-19

*(пачатак на стар. №1)*

инфицирования, уже могут быть изменения в легких, и они видны на КТ.

*— Что вы видите?*

— Основные признаки коронавирусной пневмонии на рентгенограмме и КТ — это участки в легких с рисунком матового стекла. Они отражают патологические изменения в легочной ткани. Эти участки матового стекла обычно затрагивают оба легких, в частности нижние доли, и особенно задние сегменты с принципиально периферическим и субплевральным распространением. Это заболевание имеет типичную картину вирусной пневмонии. Если бы сейчас не было пандемии, то мы бы рассматривали эти ситуации, как и другие вирусные пневмонии, для которых тоже характерна такая картина.

Да, на первый-второй день заражения легкие могут быть абсолютно чистыми, но дальше изменения возникают практически у 50% пациентов с коронавирусом даже при бессимптомном течении заболевания. Если заболевание прогрессирует, то эти матовые стеклышки в легких увеличиваются в размерах и становятся довольно яркими уплотнениями.

*— Метод КТ является более точным, чем рентген?*

— Конечно, у КТ разрешающая способность лучше, чем у рентгена, но в условиях пандемии мы видим эту пневмонию и на рентгене.

*— Пневмонии бывают не только вирусные, но и бактериальные, при бактериальной КТ-картина отличается?*

— При бактериальной пневмонии на КТ чаще наблюдаются односторонние участки уплотнения по типу консолидации, вовлекающие сегмент или целую долю легкого, при этом чаще встречается плевральный выпот и иногда могут появляться участки кавитации (полости). Плевральный выпот нехарактерен для вирусной пневмонии, и в том числе для пневмоний при коронавирусе. При COVID-19 в средостении легких также нет увеличенных лимфоузлов.

*— Коронавирусная пневмония — это чаще двустороннее воспаление легких или одностороннее?*

— Двустороннее. Безусловно, я не могу отвечать за каждый случай и видела в практике всякое, но классически — это двустороннее воспаление легких, причем поражены нижние доли, периферические отделы.

**«Из интубированных процент тех, кого разинтубировали, очень низок»**

*— Если у пациента уже тяжелое состояние при коронавирусной пневмонии, откатить все назад можно только за счет ИВЛ?*

— ИВЛ помогает, но мои коллеги говорят о том, что большую роль играет кислород, иммунная система человека и то, переворачивают ли пациентов на кислороде на живот. Вот у таких пациентов исходы лучше. Но это нужно делать своевременно, и обычно пациента держат на кислороде как можно дольше перед тем, как интубировать и подключать к ИВЛ. Из интубированных процент тех, кого разинтубировали, очень низок. То есть интубация — это почти равно плохой прогноз.

*— То есть если пациент уже на ИВЛ, он, скорее всего, плохо закончит?*

— Это не смертный приговор, и есть статистика, которая показывает, что людей снимают с ИВЛ, но у пожилых с отягощающими и сопутствующими заболеваниями шанс низкий. У нас к ИВЛ обращаются только в крайней ситуации, когда были использованы все предыдущие методы с дополнительным кислородом и сопутствующим лечением.

**TUT.BY**

АХОВА ПРЫРОДЫ

# УВАГА, БРАКАНЬЕРЫ!

**За тры месяцы гэтага года ў Віцебскай вобласці на браканьераў завялі 12 крымінальных справаў.**

Так, на возеры Мелкае Бешанковіцкага раёна затрыманы мясцовы жыхар, які на драўлянай лодцы з дапамогай трох сетак незаконна здабыў 11,6 кг рыбы. Шкоду, прычыненую ім навакольнага асяроддзі, ацэнены ў 156 базавых велічынь (больш за 4,2 тыс. руб.).

Як паведаміў намеснік начальніка абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Вячаслаў Салдатаў, за першы квартал 2020 га супрацоўнікамі службы выяўлена 277 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Канфіскавана 717 сетак агульнай працягласцю 33 км і 185 іншых забароненых прылад рыбалоўства, 15 адзінак агнястрэльнай зброі.

**Віцебскія Весці**

ЗВАЛЬНЕННЕ

# ПАКІНУЎ БЕШАНКОВІЧЫ

**Былы кіраўнік Бешанковіцкага раёна Леанід Пянькоўскі звольніўся з пасады дырэктара ЗАТ «АСБ — Агра Наватар». Яго прызначылі дырэктарам Баранавіцкай птушкафабрыкі.**

Чуткі пра звальненне Пянькоўскага ходзяць ужо два дні. Але ж на сайце Бешанковіцкага райвыканкама пра тое 23-га красавіка не гаварылася ані слова. Згодна таго сайта, дырэктарам «Наватара» ўсё яшчэ з'яўляецца ён.

Але ў прыёмнай дырэктара, на маю просьбу звязацца з ім, сакратарка паведаміла, што "Леанід Канстанцінавіч у нас больш не працуе."

З яе словаў, Леанід Пянькоўскі звольніўся яшчэ 21-га красавіка. Цяпер гаспадаркай кіруе ягоны намеснік.

Куды накіраваўся Л.Пянькоўскі ў прыёмнай не ведаюць.

Праз дзве гадзіны пасля гэтай маёй размовы ў Сеціве зьявілася інфармацыя, што Леанід Пянькоўскі прызначаны дырэктарам Баранавіцкай птушкафабрыкі.

**Г.Станкевіч**

# НЕТ ИНФОРМАЦИИ

**Городской поселок в 50 километрах от Витебска уже месяц боится областного центра как огня. Жители Бешенковичей перестали ездить туда по бытовым, рабочим и забавным делам. В первые волны вирусных новостей люди считали, что зараза только в Витебске, и были беспечными. Беззаботность прошла неделю назад после первой смерти в поселке. 57-летняя дезинфектор санэпидемстанции скончалась в местной реанимации. Говорят, от пневмонии. Но люди смекнули, что сейчас может значить пневмония. Они стали массово закупориваться в домах, выходить только на работу и в магазин — обязательно в маске. Жителям Бешенковичей никто не сообщает об эпидемической обстановке, по поселку ходят слухи, что местная больница забита, а часть городских чиновников поместили в карантин. Так что же происходит в Бешенковичах на самом деле? Съездили и посмотрели.**

**«Мы знаем только то, что говорят по телевизору»**

Местные говорят, что раньше народу на улицах было больше. Сейчас это в основном старшее поколение с зелеными продуктовыми пакетами в руках. Большинство в масках, чаще в марлевых.

— Мы знаем только то, что говорят по телевизору. У меня сын лечится в больнице от пневмонии, проблем вот так хватает, — жестикулирует прохожая женщина в марлевой маске; о количестве зараженных коронавирусом она не подозревает.

У нее звонит телефон, она отвлекается.

— Да, Света. Врач приходил?.. Ну что сказали?.. Ага, и руки мыть. Ну ясно... Ну ясно. На сколько дней больничный дали?.. Это на три дня, получается?.. И что, туда приходить или врача вызывать?.. Это надо дитя тянуть через все Бешенковичи... Ну ясно. Ну понятно... Ну так это утром еще 38... Ладно, Света, я приду домой и перезвоню тебе, — она поворачивается к нам. — Внук заболел. Температура 38. Теперь такая инфекция ходит... Вот Пасха в воскресенье, я в этом году не пойду. Знаете, вот мы когда в грязи копаемся, руки грязные — мы понимаем, что это грязь, она видима. А то, чего не видно, порой бывает страшнее, чем видимое. Чернобыль мы увидели когда? Когда начались последствия. Я в то время еще молодая была, работала. Нас отправляли в колхоз полоть свеклу под палящим солнцем. А мы верили, что все хорошо.

Женщина идет дальше по своим делам. Мы тоже. По пути натыкаемся на Дом культуры, из-за дверей на нас смотрит девушка в маске. Она третий год руководит местным ансамблем.

— У нас кто в отпуск пошел, кто взял за свой счет. Сейчас ничего не делаем, репетиций не проводим. Приходим и отрабатываем свое время, — скучающе говорит она. — Милиция у нас тоже уходит на больничные, председатель райисполкома и его заместители — тоже. А так все спокойно. Как только начался этот пик, все стали уходить в отпуск. Я вот просидела две недели дома и ходила в магазин. Естественно, в перчатках и маске. Ну а что делать? На карантин не закрывают, 9 Мая, наверное, не будет... А как его проводить? Лично я петь не пойду, массовое мероприятие все же. В конце марта у нас организовали «засевки». Пришел новый председатель райисполкома, нас согнали на поле, мы попели... Был весь исполком — и тут узнаешь, что председатель уходит на больничный, за ним — заместители.

Девушка рассказывает про смерть сотрудницы эпидемстанции в городе. Говорит, женщина неделю пролежала с температурой. Когда ей стало совсем плохо, положили в больницу.

— Слышала, что она часто болела. После этого начали говорить, что все из санэпидемстанции пошли на карантины и на больничные... В здании гимназии — сразу за больницей — сидят врачи, — рассказывает девушка. — Ну, конечно, хаос в Бешенковичах творится, все боятся. Витебск у нас [недалеко], сначала боялись его. Катаются и студенты, и так все ездят туда и обратно. Но после смерти женщины начали скупать «Копеечку».

Работница ДК не в курсе, сколько зараженных коронавирусом в ее поселке. В местном магазине, где работает дочка умершей от пневмонии женщины, говорят: сейчас девушка на карантине, на связь с коллегами она пока не выходила. На вопрос о том, сколько в Бешенковичах зарегистрировано случаев COVID-19, продавщицы ответить не могут: информации нет.

**«Все взвалили на наших врачей, весь район»**

Возле детского отделения Бешенковичской ЦРБ (его отдали под больных пневмонией) медработница в одноразовом защитном костюме задумчиво докуривает сигарету и собирается на обед. Окидывает нас недовольным взглядом: помешали. Тем не менее все рассказывает. Говорит, что больница забита пациентами с пневмонией.

— Препараты все есть, обмундирование — тоже. Сегодня гуманитарка пришла — правда, не знаю откуда. Детское отделение, хирургия, терапия — все полностью забито пациентами с пневмонией. Детей нет, все взрослые. В реанимации тоже люди лежат, на ИВЛ один человек. Всего у нас два аппарата, — говорит она. — Я сама сегодня мазок сдавала, в первый раз. Ждать нужно где-то неделю: тесты везут проверять в Могилев. Я не боюсь, мне не страшно. Это такая инфекция, которой бояться не надо. Природный естественный отбор.

— Персонала не хватает вообще. Когда все началось, некоторые решили уволиться. Хотят уволиться, а потом прийти после всего этого. Но им сказали: назад не возьмем. Все взвалили на наших врачей, весь район. Девчата воюют — главврач и ее зам. Насколько я знаю, все сдали мазки — все здоровы. Из других районов медиков не присылают, ведь там то же самое. Реанимация работает с пациентами, но домой не ездит, все ночуют в гимназии. Потому что они ближе контактируют. Про женщину, которая умерла, ничего не знаю. Все, пора идти за обедом, — отрезает она и скрывается за дверью.

*(скарочана)*

**Onliner**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДЗЯРЖАВА ДЛЯ НАРОДА І ЗАМОРСКІ ВІРУС

**Заўважыць няўзброены вокам каронавірус, які паставіў з ног на галаву сучасную цывілізацыю, маюць талент адзінкі. У Беларусі на гэта не здольны нават той, хто ў стане разгледзець факты карупцыі і галавацяпства з акна Палаца Незалежнасці. Але перад каронавірусам нават ён спасаваў.**




У штатных ідэолагаў не паўстала цяжкасцяў патлумачыць грамадству праблемы, з якімі сутыкнулася Еўропа: еўрапейская дэмакратыя аказалася гнілаватай; інтэграцыйны праект не вытрымаў першага выспятка і разваліўся, нібы картачны домік. Шмат яшчэ такой жа арыгінальнай інфармацыі паведамілі нам дзяржаўныя СМІ. Чытай — не хачу.

Але жыццё, нібы прапаршчык на пляцы, дзейнічае па прынцыпе «не можаш — навучым, не хочаш — прымусім». Колькі беларусаў былі здольныя адрозніць лінейны рост ад экспанентнага? Апошні, калі хто яшчэ не паспеў разабрацца, адрозніваецца тым, што велічыня расце тым хутчэй, чым большае значэнне яна прымае.

Такі рост, у прыватнасці, характэрны для павелічэння колькасці хворых падчас эпідэмій. Г. зн. чым больш людзей заражаюцца каронавірусам, тым хутчэй ён ахопливае астатняе насельніцтва краіны. І з першых дзён красавіка беларусы маюць магчымасць адсочваць, як гэта адбываецца на практыцы.

На думку адзінага палітыка (АП), выказаную ім 7 красавіка, «катастрофы абсалютна няма. Так, прырост у нас назіраецца. Дзякуй Богу, што не лавінападобны». А цяпер звернемся да хітрай, але афіцыйнай статыстыкі: па стане на 6.04 колькасць інфікаваных склала 700 чалавек (+138), на 7.04 — 861 (+161), на 8.04 — 1066 (+205), на 9.04 — 1486 (+420), на 10.04 — 1981 (+499) і гэтак далей.

За тры дні колькасць інфікаваных у Беларусі больш чым падвоілася! Ці лічыць такую дынаміку лавінападобнай — справа густу. Для параўнання, у Германіі «колькасць хворых падвойваецца раз на пяць дзён» (канцлер Ангела Меркель).

**Пра ролю вірусаў у гісторыі**

Эпідэміі прыходзяць і сыходзяць, а жыццё працягваецца. У краінах, якія здолелі пераламаць экспаненты рост колькасці інфікаваных, усё большактыўна пачынаюць абмяркоўваць посткаронавірусную будучыню. Большасць экспертаў сыходзіцца ў меркаванні, што яна стане істотна адрозніваца ад звыклай нам сучаснасці.

Тут будзе дарэчы прыгадаць пра эпідэмію чумы, якая знішчыла каля **паловы насельніцтва Еўропы ў 1346–1353 гадах**. Яе галоўнымі вынікамі сталі рост кошту рабочай сілы і крызіс каталіцызму.

Праз імклівае скарачэнне колькасці працоўных рук прымыслі нагадаць пра сябе законы попыту і прапановы. І няхай сярэднявечныя працадаўцы (зямельныя арыстакраты) і не падазравалі пра іх існаванне, але не лічыцца з гэтымі законамі на практыцы яны не маглі. Таму, насуперак векавым традыцыям, былі вымушаныя рэгулярна «ісці насустрач пажаданням працоўных» у пытаннях заробатнай платы.

Што тычыцца каталіцкай царквы, то пасля дэманстрацыі сваёй няздольнасці спыніць распаўсюд «чорнай смерці», ёй было складана зноў прэтэндаваць на палітычнае і маральнае панаванне. Праз дзвесце гадоў, на думку многіх сур'ёзных даследчыкаў, часткова страта легітымнасці адгукнулася тэзісамі Лютэра, якія паклалі пачатак размежавання заходніх хрысціян на каталікоў і пратэстантаў.

Безумоўна, гэта быў не адзіны выпадак, калі вірусы і бактэрыі паўплывалі на ход гісторыі. Не выключана, што да ліку лёсавызначальных будзе прылічана і эпідэмія, выкліканая каронавірусам SARS-CoV-2.

**Моцныя гэтага свету рыхтуюцца да перадзелу свету**

*...Бліжэйшая будучыня посткаронавіруснага свету ў першую чаргу хвалюе тых, каму ёсць што губляць.* Праілюструю сказанае фрагментам інтэрв'ю АП тэлерадыёкампаніі «Мір»: «А ці не здаецца, што моцныя гэтага свету без вайны (Макрон гэта ўжо вайной назваў) праз гэты так званы каронавірусны псіхоз хочуць перадзяліць свет?»

Думка не новая. Нездарма ж Беларусь прэтэндуе на статус «донара еўрапейскай стабільнасці». Каму гэта спадабаецца? Зайздроснікаў у нас хапае. Яны плодзяцца, нібы хваробатворныя бактэрыі ў кубку Петры.

Успомнім «абасраную карову» з аграхолдынгу «Купалаўскі», што на Магілёўшчыне. Нездарма тая гаротная жывёла трапілася на вочы галоўнаму спецыялісту краіны па надоях і прыбаўках. Ох, нездарма! Лепшага спосабу дыскрэдытаваць наш курс на развіццё калгасна-саўгаснай вытворчасці ў сельскай гаспадарцы і не прыдумаць. Тут адчуваецца вопытная рука заходняга лялькавода. Не самі ж работнікі фермы давялі карову да такога стану!

Адна «абасраная карова», другая «абасранная карова»... Аднак жа справа не ў стане канкрэтнай каровы. На коне стаіць харчовая бяспека краіны. А без яе — бывай, суверэнітэт! Бывай, незалежнасць!

**А кароль жа голы!**

За чвэрць стагоддзя мы прызвычаіліся, што манаполіяй на ісціну ў нас валодае адзін чалавек. Па якіх канкрэтна пытаннях ён выказваў сваё меркаванне — значэння не мае. Роля ж астатніх зводзіцца толькі да рэтрансляцыі канчатковых ісцін, што не выпадае абмяркоўваць.

Як тут ні прыгадаць анекдот пра прапаршчыка і здольных лётаць кракадзілаў «але толькі нізенька-нізенька». Чым гэты анекдот адрозніваецца ад рэальнай гісторыі пра вірусы, якія АП і журналісты не здолелі разглядзець на лядовай арэне?

Эпідэмія, што развіваецца па экспаненце, адкрыла адну з галоўных таямніц беларускай мадэлі — таямніцу голага караля. Як аказалася, ніякімі ведамі, акрамя бытавых, ні па адным са значных пытанняў ён не валодае. Для пастаноўкі ж падначаленым задач у агульным выглядзе — вялікага розуму не трэба. Кіраўнік — не той, хто кажа, што трэба рабіць, а той, хто кажа, як трэба рабіць. Гэтая ісціна была сярод азбукавых яшчэ ў гады сталінскіх пяцігодак.

Да эпідэміі ацэнкі экспертаў мала каго цікавілі. Але імпартная зараза паставіла перад кожным гамлетаўскае пытанне: «Быць ці не быць?». І тут адразу паўстаў масавы попыт на меркаванне прафесійных медыкаў. Высветлілася, што інтэрнэт — гэта не памыйніца, а крыніца жыццёва важнай інфармацыі.

Ці абмяжуецца гэта адкрыццё каронавірусанай тэматыкай, ці падштурхне да думкі, што кіраванне дзяржавай немагчымае без апоры на экспертнае меркаванне, — пакажа час, але першы крок у гэтым кірунку зроблены.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

COVID-19

# КОГДА УЖЕ КОЛЕ БУДЕТ ХОРОШО?

**«Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломў», — так мог бы описать страдания юного Николая Лукашенко его отец, если бы был поэтом. Но папа Коли был президентом, поэтому вместо литературных упражнений отправил сына в школу вместе со всеми детьми страны. И вот, как всегда: чтобы Коле стало хорошо, плохо должно стать всем.**

— Он три дня отдохнул и опять пошел в школу. И я так наблюдаю: если сын президента так стремится в школу, наверное, он не один, — объяснял Александр Лукашенко свое желание снова открыть школы.

Честно говоря, мотивация так себе. Во-первых, не совсем понятно, куда именно ходил Николай Лукашенко после трех дней сидения дома, когда все школы страны в это время были закрыты на каникулы. Кажется, кто-то папе чего-то не договаривает.

Но дело даже не в этом. Возможно, многие дети действительно рвутся в школы, потому что, как оказалось, просто так сидеть дома не так уж и просто. Кстати, мои дети не исключение. Но отправлять их в школу сейчас — верх безответственности. Не потому, что страшно за их и свое здоровье (вроде не в группе риска), а потому, что лично я не готова ставить под удар жизни других.

Рисковать стариками только потому, что у моего чада резко проснулось тяга к знаниям, для меня непозволительная роскошь. Тем более что сегодня есть возможность получать знания и без такого риска. Да и экономике это никак не повредит.

Но в спиче Александра Григорьевича нет ни слова про других. Его мотивация — «сын президента стремится в школу». Какие старики? Какие больные? Какой вирус? Коля хочет! До этого хотел поспать — и вся страна перекраивала школьные графики. Потом мучился с червями и математикой — и мы переписывали учебники. Теперь вот заскучал дома.

И плевать, что от этого плохо будет почти всем. Учителям, которые теперь будут вынуждены работать и в классе, и дистанционно. Ученикам, которые по-разному смогут усваивать программу из-за разницы подходов. Их родителям и особенно бабушкам с дедушками, для которых риск заразиться вырастет в разы. Врачам, которые и так уже не сильно справляются с потоком заболевших.

И вот возникает вопрос: кому именно хотел сделать хорошо Александр Григорьевич? Потому что и в Колиных глазах, честно говоря, не очень-то читается радость. Сегодня во время пасхального посещения храма он был мрачен и явно не демонстрировал счастья в предвкушении завтрашнего похода в школу.

Но самое показательное, что президент вновь продемонстрировал свое отношение к людям. И когда решил отправить детей учиться, и когда сам поучал других в храме, собрав около себя толпу. Но, кажется, что его вообще не особо волнует, что думают другие.

— Я сейчас не вижу, что мы в чем-то ошиблись, — отметил в воскресенье Лукашенко.

Можете не сомневаться, и не увидит. Очень уж узок его обзор.

**Анастасия Зеленкова**
**gazetaby.com**

COVID-19

# «ТАК НЕЛЬЗЯ ПОСТУПАТЬ С ЛЮДЬМИ»

**23 апреля Александр Лукашенко заявил, что «в Беларуси нет ни одного умершего от коронавируса». После публикации в редакцию TUT.BY позвонила минчанка Татьяна, вдова Эдуарда Тихомирова. Ее мужа не стало утром 4 апреля. В свидетельстве указана причина смерти — коронавирусная инфекция, проститься с умершим семья не смогла — всех забрали в больницу. «Очень больно слышать такие заявления, ведь мой муж умер от коронавируса, и это указано в документах. У него не было лишнего веса и хронических заболеваний, он сгорел за несколько дней».**

Александр Лукашенко не первый раз заявляет, что в Беларуси нет умерших от коронавируса: «Никто от коронавируса в нашей стране не умрет. Я публично об этом заявляю. Это мое твердое убеждение». В сообщениях Минздрава подчеркивается, что умирают пациенты «с рядом хронических заболеваний с выявленной коронавирусной инфекцией».

Сдерживая слезы, Татьяна рассказала, почему ее задели слова президента:

— У нас вся семья пострадала от коронавируса. Сначала заболел мой муж, 21 марта. Следом за ним заболела и я, 27 марта. Никто из нас не выезжал за границу, у нас не было контактов с людьми, которые приехали из-за рубежа. Мы обычные граждане, работаем на госпредприятиях.

Началось все с ломоты в теле — такой, что без таблетки невозможно уснуть. 28 марта мужу стало хуже, температура поднялась до 38,7. Никакой одышки, кашля не было, но пропало обоняние, была сухость во рту. Ему позвонил коллега с работы и рассказал, что у двух сотрудников обнаружили коронавирус, их забрали в больницу. Обращаю внимание, эту информацию мы получили не от руководства предприятия и не от эпидемиологов.

Как выяснилось позже, муж был контактом первого уровня, но на тот момент мы этого еще не знали. 29 марта я вызвала мужу скорую, его забрали в 4-ю больницу, на следующий день мне позвонили и сказали, что у него подтвердился коронавирус. Через два часа за нами приехала скорая, забрали меня, сына и моего пожилого отца, инвалида 2-й группы. Представьте, все мы ходили на работу, мы же не знали, что заражены.

Муж позвонил мне, сказал, что ему сделали снимок и выявили пневмонию. В экстренном порядке его перевезли в 6-ю больницу, сразу же в реанимацию.

Мой муж ничем не болел, ему был 51 год, он 20 лет не был на больничном, это же о чем-то говорит. Он был 198 см ростом и 112 кг весом. Он был красавец просто. Никто не может понять, как мог сгореть такой здоровый мужчина, у него даже повышенного давления не было.

Показатели ухудшились, и его подключили к аппарату ИВЛ. 2 апреля он еще успел мне позвонить, сказал: «Хотел бы держать тебя за руку, это бы придало мне сил». Утром 4 апреля его не стало. В свидетельстве указана причина смерти — коронавирусная инфекция.

Поскольку мы все были в больнице и у всех нас подтвердился коронавирус, проститься с мужем никто не мог. Я фактически по телефону организовывала похороны. 20 ритуальных агентств отказали, когда узнали, что у супруга был коронавирус. В морге вскрыли тело и упаковали в вакуумный пакет, одеть мужа не разрешили. Я попросила дочь, которая живет в другом городе, собрать костюм, который просто положили в гроб перед кремацией. Прощания с мужем не было. Мы до сих пор не можем даже забрать его прах, потому что отец все еще в больнице, а у меня по-прежнему положительный тест.

Меня просто трясет, когда я читаю заявления, что в Беларуси никто не умер и не умрет от коронавируса. Как глава государства может так говорить, ведь он фактически гарантирует это! Но мой муж умер! Бросаться такими словами — это просто кощунство. Люди слушают это и верят! Мы сейчас с сыном на самоизоляции, друзья привозят нам продукты под дверь, но я же вижу в окно, как по-прежнему люди ходят без масок, при встрече здороваются за руку и обнимаются. Они не понимают, как это опасно. Я даже представить не могла, что эта беда затронет мою семью, что это убьет моего любимого мужа, ведь он даже не болел.

Так нельзя поступать с нашими людьми. Мы ходим на работу, платим налоги, выполняем все правила и законы нашей республики. За что же к нам такое отношение?..

**news.tut.by**

# ЯК СІТУАЦЫЯ ВЫЙШЛА З-ПАД КАНТРОЛЮ

**Загадчык рэанімацыі віцебскай бальніцы расказаў, як і чаму сітуацыя з каранавірусам у горадзе выйшла з-пад кантролю.**

Пра тое, як спраўляюцца з эпідэміяй каранавіруса ў Віцебску, «Імёнам» расказаў Уладзімір Мартаў, які загадвае рэанімацыяй ў бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. Цяпер ён лечыць пацыентаў з віруснымі пнеўманіямі, шмат у каго пацверджаны каранавірус. Уладзімір тлумачыць: кожны доктар можа дапамагчы дзясяткам людзей, але калі правільна арганізаваць сістэму дапамогі, можна дапамагчы — тысячам.

На працы я адчуваю сябе абароненым. Усе неабходныя сродкі абароны ў нас былі з першага дня. Мы былі гатовыя да прыёму вірусных пнеўманій. Нам загадзя ўсталявалі патрэбнае абсталяванне, дапамаглі падзяліць бальніцу на зоны.

Многія нам дапамаглі: спонсары, звычайныя людзі, калегі з Мінска, нават міністр аховы здароўя. Але наша бальніца — не паказальная для Віцебска, а, хутчэй, узорна-паказальная. У астатніх бальніцах — сітуацыя іншая. Тыя, хто прыняў на сябе першы ўдар, моцна пацярпелі: там захварэлі і дактары, і іншыя пацыенты.

Сучасная медыцына павінна вырашаць праблемы не ў момант эпідэміі, а загадзя. Мы ўсе чыталі навіны пра каранавірус яшчэ зімой. Я — доктар — і рыхтаваўся да яго прыходу як доктар: вывучаў даследаванні, як лячыць людзей з каранавірусам. Але я не мог спрагназаваць, як гэты вірус будзе распаўсюджвацца, з якой хуткасцю, якія будуць маштабы. Для гэтага ёсць іншыя прафесіі: вірусолагі, эпідэміёлагі. Не дактары, а людзі, якія займаюцца арганізацыяй аховы здароўя, закупляюць абсталяванне, сродкі абароны, прымаюць стратэгічныя рашэнні.

**У Віцебску сітуацыя выйшла з-пад кантролю.**

Для прыёму хворых з каранавірусамі падрыхтавалі адну бальніцу і туды адпраўлялі ўсіх са станоўчымі вынікамі тэсту. Але гэта вар'яцтва — абапіраецца толькі на тэсты пры прыняцці рашэнняў. Яшчэ ва ўніверсітэце ўсіх студэнтаў вучаць, што не існуе тэстаў з пэўнасцю 100%. І што атрымалася?

Мужа са станоўчым вынікам клалі ў інфекцыйную бальніцу, якая была гатовая да такіх пацыентаў. А жонку з адмоўным вынікам, але з такімі ж сімптомамі — у іншую, дзе ніхто не быў абаронены. У мяне ў бальніцы ляжаць мама і дачка з адной сям'і. У дачкі станоўчы вынік, у мамы — адмоўны. Мама ледзь выжыла. Ход хваробы ў яе быў тыповы для ўсіх пацыентаў з каранавірусам.

Не ўлічылі і тое, што крыніц заражэння можа быць шмат: людзі прыехалі з адпачынкаў, вярталіся з працы за мяжой. З-за гэтых памылак шуганула адразу ў шмат якіх шпіталях.

Медработнікі, вядома, таксама захварэлі. І гэта — проста паскудства. Іх не папярэдзілі пра рызыкі. Яны былі ўпэўненыя, што прымаюць хворых са звычайнай пнеўманіяй і ВРВІ, якіх у гэты перыяд шмат. Я сам 22 сакавіка ездзіў у адзін са шпіталяў дапамагаць калегам — у нас не было ніякай абароны [*18 сакавіка стала вядома пра першую смерць ад пнеўманіі з падазрэннем на каранавірус у Віцебску, але ўлады да 31 сакавіка публічна адмаўлялі наяўнасць складанай сітуацыі ў Віцебску, а пасля не раз заяўлялі, што сітуацыя пад кантролем* — **НН**]. Але зусім нечакана мы сутыкнуліся з валам вірусных пнеўманій, многія з якіх былі каранавіруснымі. Сродкаў абароны не было.

Лекары, медсёстры, санітаркі, ліфцёр, раздатчыца і многія іншыя людзі бачылі, як заражаюцца і нават паміраюць іх калегі, аднакурснікі, сябры.

У шпіталях пачалася паніка і дэзерцірства: хтосьці звальняўся, хтосьці сыходзіў на бальнічны. **Працаваць без абароны было нормай у савецкія часы, але для сучаснага свету гэта — дзікунства.**

Калі ў бальніцы няма патрэбнага абсталявання, а ў доктара — патрэбных сродкаў абароны, ты нічога не зробіш. Ты можаш быць разумным і добрым доктарам, але ты будзеш нямоглы.

Праз тыдзень пасля ўспышкі ў горадзе ў нашай бальніцы з'явіліся сродкі абароны і патрэбнае абсталяванне. Мы праехаліся па іншых бальніцах, праверылі пацыентаў і дактароў. Сярод іх выявілі тых, каму патрэбна была дапамога з кіслародам, забралі да сябе і дапамаглі. Дзякуючы гэтаму і ўдалося пагасіць паніку.

Першы рэспіратар і ахоўны касцюм, якія я надзеў, **прывезлі валанцёры**. Лік тады ішоў на гадзіны, паспелі. Калі б мы пачалі прымаць хворых без абароны, захварэлі б самі. Цяпер сродкаў абароны з кожным днём — усё больш. Дзяржава прывозіць асноўную частку. Да канца эпідэміі будзем забяспечаны цалкам. Але хацелася б, каб гэта было ў пачатку.

Цяпер усіх перапаўняе любоў да дактароў. Але наўрад ці гэта будзе доўжыцца доўга. Напярэдадні эпідэміі прагрымела «справа лекараў». Гэтыя справы працягваюцца, нічога не змянілася. А калі каранавірус скончыцца, будуць зноў з намі разбірацца ўжо з нагоды спонсарскай дапамогі. Мне прывозяць дыхальныя апараты, сродкі абароны, я іх хапаю, таму што яны мне патрэбныя проста зараз, і іду працаваць. Але я не ведаю, ці правільна я іх схапіў ці не. Старэйшая медсястра проста з глузду едзе цяпер ад пісаніны — спонсарскую дапамогу трэба правільна аформіць.

Такое адчуванне, што мы — на вайне, а астатнія — не. Некаторыя мае калегі некалькі тыдняў жывуць на працы. Гінеколагі, скурвенеролагі навучыліся лячыць людзей з пнеўманіяй. Мы — рэаніматолагі — займаемся хворымі, кансультуем і вучым калегаў у шпіталях. Я ўжо стаміўся, мякка кажучы. А потым, ты вынырваеш з вайны ў свет, а тут — наогул іншае жыццё. Людзі не зразумелі, што пачалася вайна. Пракуратура, праверкі, майго асноўнага работніка анестэзіёлага-рэаніматолага хочуць пакласці «на абследаванне» для прызыву ў войска. Складана супастаўляць гэтыя рэальнасці.

Я б марыў, каб з маёй дапамогай памерла менш хворых, чым без мяне, але не факт. Мы не можам усіх выратаваць, людзі паміраюць.

**Тое, што ў нас не паміраюць ад каранавіруса, гэта ж не медык сказаў**. Учора ў мяне ў рэанімацыі памерла медсястра, 41 год, за жыццё якой мы змагаліся паўтара тыдня.

У медработніка вірусная нагрузка на парадак большая, чым у пацыента, што заразіўся пры выпадковым кантакце ў транспарце або краме. Таму часта хада хваробы праходзіць цяжэй.

Часам і чалавек, і дактары, робяць усё, і не атрымоўваецца. Часам людзі самі сабе шкодзяць.

Адзін мой пацыент калісьці хадзіў на Эверэст і дзякуючы гэтаму вопыту выбраўся з крайне цяжкага стану. Ён ведаў, што калі кіслароду мала, яго трэба эканоміць: не крычаць, не гаварыць, не панікаваць, а проста ляжаць на жываце. Гэта вельмі важна.

На жаль, не ўсе гэта робяць, а я прымусіць не магу…

Правільная арганізацыя ратуе ў дзясяткі разоў больш, чым любы доктар. Я дапамагаю канкрэтным людзям: адзінкам, дзясяткам. Я сяджу ў акопе на перадавой і спадзяюся, што ў генеральным штабе хтосьці думае. І хачу верыць, што людзі таксама клапоцяцца пра сябе і не падстаўляюцца. Нам, дактарам, вельмі важна ведаць, што мы — не адны на гэтай вайне.

*(скарочана)*

**"Наша Ніва"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.04.2020 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.